Год II.　Сьнежань　№ 13 (23)

# Шлях Моладзі

… „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1930 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 13.



*Просім прысылаць падпіску (грошы) «Шлях Моладзі»!*


# „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода . . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год II. | Вільня, Сьнежань 1930 г. | № 13 (23). |
|---|---|---|

УСІМ ПАДПІШЧЫКАМ, СУПРАЦОЎНІКАМ І ЧЫТАЧОМ ЖАДАЕМО ВЯСЁЛЫХ СЬВЯТ!

**Пры гэтым нумары ўсім падпішчыкам аплаціўшым падпіску за „Шлях Моладзі" і супрацоўнікам бясплатна высылаем два Календарыкі (насьценны і кішанёвы) „Шляху Моладзі" на 1931 г.**

## Думкі ў Калядны вечар..

1930 гадоў таму назад у ўбогай стаёнцы ў Віфлііеме прышоў на сьвет Хрыстос — Бог-Чалавек, які прынёс для людзей навуку, як трэба жыць. Даў Ён навуку гэту для ўсіх: ад найбяднейшага да найбагацейшага, ад наймудрэйшага да найпрасьцейшага. Навука Яго — наймудрэйшая, вечная, сьветлая, справядлівая, непарушная... Хто жыве паводле гэтае навукі ніколі ня блудзе і заўсёды асягае мэту жыцьця свайго... Хто не ўважае навукі Хрыстовае, — той блудзіць і шчасьця ніколі не находзіць...

Навука Хрыстова і беларускаму народу, які змагаецца за правы быту, за волю і шчасьце сваё — прыносе пацеху і ўзмацненьне...

Ворагі беларускага народу разумеюць гэта і, хочучы аслабіць нас, усялякімі спосабамі стараюцца вырваць з душаў нашых гэтую жыцьцядайную навуку і веру ў перамогу яе. Закідаюць яны нас рознай бруковай літэратурай, насылаюць сваіх агентаў і гэтым хочуць зьвясьці нас на блудную дарогу матэр'ялізму. Ворагі нашы добра знаюць, што вырваўшы нам веру ў Хрыста і зьвёўшы нас на дарогу матэр'ялізму, цалком абяссіляць нас.

З жалем трэба прызнаць, што ворагам нашым дапяць сваей мэты часткова ўдалося. У нас, як бачым, вельмі часта спатыкаюцца сяньня людзі бязідэйныя, нясумленныя, якія за

грошы могуць усё зрабіць. Ня маюць яны сораму, сумленьня, ахвярнасьці, ня цэняць і не шануюць агульнага дабра, ня могуць і ня ўмеюць працаваць для сваей Бацькаўшчыны, для свайго народу, не патрапяць нічога людзкага збудаваць!...

Зараза гэта хутка пашыраецца такжа і сярод беларускае моладзі.

Моладзь наша, як часта цёмная і непрактычная, лёгка падае ахвярай прапагатараў матэр'ялізму, якія неўзаметкі руйнуюць іх жыцьцё і ідэалы.

Трэба так-жа сьцьвердзіць, што вельмі часта памагаюць матэр'ялістам у іхняй нягоднай і процiў Хрыстовай працы розныя самазванныя вучыцялі хрысьціянства.

Але ня гледзячы на ўсё гэта, навука Хрыстова заўсёды астаецца Праўдай вечнай і духовай жыцьцетворчай сілай.

І той, хто пазнаў належна гэту навуку, той не перастане паводле яе жыць і верыць у яе

Нам, беларускай моладзі, трэба перадусім добра пазнаць навуку Хрыста і жыць паводле яе, каб узброіўшыся ў сілу духа нашага хутчэй здабыць лепшы лёс для нашае Бацькаўшчыны, для нашага беларускага народу і хутчэй дачакаць той хвіліны, калі:

„Зацьвіце Наш Край,
Як сонца пасьля непагоды“...

Я. Н.

# Якімі літарамі маем друкаваць „Шлях Моладзі“.

У беларускім культурным жыцьці хоць азбука лацінка заўсёды дапушчалася і ўмеру патрэбы ўжывалася, аднак азбука гражданка (рускія літары) да апошніх часоў лічылася аснаўной і ў сутнасьці незаменнай беларускай азбукай!

Вось-жа, апіраючыся на гэтым, агульнапрынятым у Беларусаў, поглядзе, і мы выдаём наш „Шлях Моладзі“ гражданкай.

Тымчасам апошнімі гадамі што да агульнасьці і незамянімасьці гражданкі ў беларускай грамадзкай і навуковай думцы паявіліся сумнівы.

14 лістапада 1926 году ў Менску Інстытутам Беларускае Культуры была склікана Акадэмічная Конфэрэнцыя дзеля рэформы беларускай азбукі і правапісу. Вось-жа на гэтай Конфэрэнцыі між іншым падымалася пытаньне аб замене гражданкі лацінкай. Праўда, вялікай большасьцяй га-

ласоў беларускай аснаўной азбукай і надалей прызнана там гражданка, але ўжо сам факт разгляданьня пытаньня аб зьмене беларускае азбукі гражданкі на лацінку шмат наводзіць думак.

Ня будзем вылічаць тут тых патрэбаў, прычын і доказаў, дзеля якіх у Усходняй Беларусі паўстала пытаньне аб замене гражданкі лацінкай. Глянем мы лепш навокал сябе і прыгледзімся да гэтай справы тут у Заходняй Беларусі.

Вось-жа жыцьцё змушае тут даць адказ, ці „Шлях Моладзі" друкаваны выключна гражданкай, дасягае сваей мэты?

Справа вось у чым. „Шлях Моладзі", як відаць з самога назову, зьяўляецца часопісяй беларускай моладзі ў Зах. Беларусі. У гэтым-жа нашым Краі, як ведаем, беларускіх школ так як і няма. Беларускія дзеці змушаны хадзіць у школы польскія, дзе яны пазнаюць толькі польскую азбуку і дзе, рэч ясная, аб гражданцы няма і мовы. Вынікам гэтага ёсьць тое, што моладзь наша, якая з бегам часу расьце і папаўняе рады беларускага народу, з гражданкай сусім незнаёма і ня можа чытаць нават сваей часопісі — „Шляху Моладзі". Адгэтуль ясна, што патрэбна беларуская літэратура лацінкай.

З другога-ж боку моладзь наша, забываючыся гражданку, гэтым самым аддаляецца ад усей тэй духовай беларускай культуры, якая тварылася даўней і творыцца цяпер пераважна гражданкай.

Адгэтуль вынікае патрэба ведаць гражданку.

Знача, рэформа нашага выдавецтва што да азбукі наступіць мусіць, але ясна так-жа, што справа гэта за паважная, каб мы самі і бяз глыбейшай развагі яе вырашалі.

Дзеля гэтага адклікаемся да нашай моладзі і старэйшага грамадзянства з просьбай адказаць нам, хто якімі літарамі ўважае за патрэбнае друкаваць „Шлях Моладзі": **1) гражданкай выключна, 2) лацінкай выключна, 3) гражданкай і лацінкай разам у вадным нумары, і 4) адзін нумар гражданкай, а другі лацінкай.**

Вось-жа просім прысылаць нам у рэдакцыю (Вільня, Завальная вул. № 6 кв. 10) адказы, хто паводле якога з чатырох вышэй вылічаных пунктаў жадае, каб друкаваўся „Шлях Моладзі", **падаючы аднача сна свае ўвагі, чаму ён так, а ня йнакш уважае, а такжа сваё імя, прозьвішча, век, чым займаецца, веравызнаньне і дакладны свой адрас.**

Толькі на падставе гэткіх адказаў і на падставе сваіх спасьцярогаў наша выдавецтва здолее даканаць рэформы што да ўжываньня тэй ці іншай азбукі.

Справа дужа важная. Просім сьпяшыць з дакладным адказам і сваімі ўвагамі.

# Аб палітычных і грамадзкіх кірунках у мінуўшчыне і сучаснасьці.

(Працяг. гл. № 12 „Шлях Моладзі")

## 5. Фашызм.

Фашызм — гэта бадай найнавейшая палітычная тэорыя сяньняшніх дзён. Паўстала яна ў Італіі на пачатку ўсясьветнай вайны ў 1914 годзе, з тым, каб пасьля вайны вырасьці ў магутную арганізацыю, якая захапіла (1922 г.) у Італіі ўладу у свае рукі. Як на чале бальшавізму стаў Ленін, так на чале фашызму стаў Муссоліні (Фашыстаў у Італіі налічваюць каля 1 міліёна).

Слова „фашызм" паходзіць ад італьянскага слова „фасці" што зн. гурткі, саюзы. Гэтыя гурткі ў 1914 годзе дамагаліся вайны з Аўстрыяй і Нямеччынай, а пасьля вайны выступілі проціў соцыялізму і комунізму. Гуртавалі яны ў сабе пераважна маладзёж работніцкую і дробных уласьнікаў (мяшчан і сялян), а пасьля вайны здэмабілізаваных жаўнераў, якія ў 1922 годзе пад павадырствам Муссолініга рушылі ўзброеныя на Рым і захапілі ўладу ў свае рукі. Называюць фашыстаў яшчэ партыяй „чорных кашуль", бо носяць, як адзнаку партыі, чорныя кашулі.

Якая-ж праграма фашыстаў?

Самі фашысты кажуць, што яны не стварылі ніякай новай тэорыі, але ўвялі ў практыку ўсё тое, што ўважалі за найлепшае для свайго краю. Яко можа і праўда, што фашысты ня выдумалі нічога новага, бо, праўду кажучы, нічога новага і няма пад сонцам, але тое, што яны **робяць**, зьяўляецца новым кірункам у сяньняшнім палітычным і грамадзкім жыцьці — і гэтая работа адбываецца паводле пэўнай праграмы.

Праграма фашызму, агулам бяручы, проціўстаўляецца клічам францускай рэволюцыі (свабода, роўнасьць і брацтва) і клічам расейскай рэволюцыі (клясавая барацьба). Іншымі славамі фашызм выступае проціў дэмократызму і комунізму.

Кліч **свабоды**, высунуты францускай рэволюцыяй (1793 г.) дамагаецца поўнай свабоды для кожнага чалавека. Дзяржава павінна абясьпечыць гэтую свабоду для кожнага грамадзяніна, каб ён мог рабіць усё тое, што ўважае за карыснае для сябе і для ўсяго грамадзянства. Такім парадкам стварылася нават асобная тэорыя, званая **лібэралізмам** (ад лацінскага слова „лібэр", што зн. свабодны), якая дамагалася поўнай свабоды для ўсіх людзей, калі толькі гэтыя людзі ня шкодзяць грамадзянству.

Вось-жа фашызм выступіў проціў такой свабоды, якую вясьціў лібэралізм. Паводле фашызму поўнай свабоды для кожнага чалавека быць не павінна. На першы плян фашызм высунуў не свабоду адзінкі, а свабоду народу і дзяржавы. „Усё для дзяржавы, нічога за дзяржавай, а перадусім нічога проціў дзяржавы“ — казаў Мусоліні ў парляманце ў 1927 годзе. Значыць фашызм хоча паддаць інтэрэсы адзінкі інтэрэсам народу і дзяржавы, а нат хочучы прымусіць адзінкі да послуху, увёў дыктатуру партыі.

Таксама рашуча выступае фашызм проціў другога дэмократычнага клічу — **роўнасьці**. Як ведама, дэмократызм дамагаецца поўнай роўнасьці для ўсіх грамадзян: роўнасьці палітычнай, грамадзкай і эканомічнай, роўнасьці і нават пропорцыянальнасьці выбараў, каб кожная група мела свой голас у дзяржаўным жыцьці.

Ня тое ў фашыстаў. Фашызм цьвердзіць, што дзяржаўнае жыцьцё павінна апірацца не на роўнасьці, але на здольнасьці (компэтэнцыі). Дзяржаўная ўлада павінна знаходзіцца ў людзей здальнейшых, якія змогуць узьняцца над свае ўласныя інтэрэсы і пасьвяціцца працы для інтэрэсаў усяго народу. Прынцыпу роўнасьці фашысты проціўстаўляюць прынцып аўторытэту і герархіі (старшынства). Ня роўнасьць, але арыстократызм духа і самаахвярнасьці для дзяржавы і народу — гэта клічы фашызму. Той павінен мець уладу ў дзяржаве, хто сваей працай найбольш прыносіць карысьці дзяржаве і народу.

Фашызм выступае так-жа проціў соцыялізму і комунізму. Соцыялізм таксама як і комунізм зносіць прыватную ўласнасьць — фашызм яе задзержывае, соцыялізм і комунізм высоўвае на першы плян інтэрас аднэй клясы (пролетарыяту), фашызм — інтэрас усіх кляс, усяго народу; соцыялізм і комунізм выступае проціў рэлігіі і сям'і — фашызм паддзержвае і рэлігію і сям'ю. На рэлігію фашызм глядзіць як на спосаб паддзяржаньня еднасьці ў народзе і вышэйшай абычайнасьці, а на сям'ю — як на спосаб павялічэньня і пашырэньня італьянскай нацыі, затым паддзержывае і рэлігію і сямейнае жыцьцё.

Як бачым, фашысты ўсю сваю дзейнасьць концэнтруюць каля народу і дзяржавы і затым іх можна назваць **нацыяналістамі** (ад лац. слова „натіо“ — народ). Усё для народу — вось галоўны кліч фашызму. Аднак фашыстоўскі нацыяналізм (як кажуць самі фашысты) рожніцца ад нацыяналізму нямецкага, польскага і іншых, каторыя на першы плян высоўваюць змаганьне з іншымі народамі, ідучы да поўнага іх зьніштажэньня, або аслабленьня. Фашызм на месца гэтага ад'ёмнага нацыяналізму высоўвае нацыяналізм дадатні, каторы на першы плян высоўвае не

змаганьне з іншымі народамі, але працу для свайго народу.*)

У тактыцы фашызм высоўвае на першы плян сваю арганізацыю, абапёртую на герархічных асновах (так як і ў камуністаў). На чале партыі стаіць павапыр (Іль Дучэ) Мусоліні (у камуністаў Сталін), а так-жа Вялікая Рада фашыстаў (у камуністаў ВЦІК). Усімі справамі кіруе генэральны сэкрэтар (так як і ў камуністаў). Словам, у арганізацыі як фашыстаў так і камуністаў ёсьць шмат падабенства.

Падабенства яшчэ можна знайсьці і ў тым, што як адны так і другія вельмі высока цэняць працу. Кожная праца—ці гэта будзе разумовая, ці фізычная, —у праграме фашыстаў (так як і камуністаў) мае вялікае народнае значэньне. Артыкул 2 выданай у 1927 г. „Карты працы“ гэтак кажа: „Праца ў кожнай форме, разумовай, тэхнічнай, ручной ёсьць грамадзкім абавязкам. Уся прадукцыя становіць еднасьць з народнага пункту гледжаньня. Мэта працы — гэта ёсьць дабрабыт працуючых і разьвіцьцё народнай магутнасьці“.

Затым кожная забастоўка ў дзяржаўных прадпрыемствах срога караецца (так як і ў камуністаў) як праступак ня толькі процiў дзяржавы, але і процiў абавязку працы.

Як бачым, фашызм у тактыцы і арганізацыі шмат падобны да камунізму, а калі яшчэ дабавім сюды яго рэвалюцыйнасьць і дыктатуру партыйнай меншасьці над народнай большасьцю, дык падабенства будзе вялікае. Аднак гэта толькі ў тактыцы і на першы пагляд, а ў самай рэчы рожніцы паміж фашызмам і комунізмам аграмадны. Фашызм нацыяналістычны, а комунізм інтэрнацыянальны, фашызм прызнае прыватную ўласнасьць, рэлігію і сям'ю, абапёртую на хрысьціянстве, а комунізм усяго гэтага не прызнае. Фашызм стаіць за салідарнасьць усіх клясаў у працы для агульнага дабра, а комунізм стаіць на грунце змаганьня кляс, з тым, каб зьнішчыць усе клясы і абярнуць усіх у пралетарыят і гэтым стварыць адну пралетарскую клясу. Фашызм не адбірае прыватнага капіталу, а камуністы адбіраюць, фашысты дапускаюць ініцыятыву ў промысьле і гандлі, а камуністы касуюць.

Як бачым і рожніц многа паміж фашызмам і комунізмам, затым яны мусяць гэтак і ненавідзяць адзін аднаго. Фашыст для комуніста і наадварот — гэта два найбольшыя ворагі сяньняшняга дня. Але ня толькі дзеля сваіх рожніц яны ненавідзяцца, яны ня любяць адзін аднаго яшчэ дзеля свайго падабенства ў арганізацыі і тактыцы. Як мы ўжо казалі, яны абодва рэвалюцыйны і апіраюцца на сіле і на

*) Гэта ў тэорыі і для вока людзкога, а ў практыцы фашысты ня чураюцца найгоршых спосабаў, каб прыдушыць свае нацыянальныя меншасьці: славэнцаў і немцаў. Фашыстоўскі нацыяналізм — гэта панаваньне італьянскай нацыі над другімі.

дыктатуры партыі, комуністычная партыя пануе у Расеі, а фашыстоўская ў Італіі, адна становіць там сілу, а другая тут — гэтым сілам трэба будзе некалі спаткацца... Яны ведаюць аб гэтым і затым такая ненавісьць. І праўду кажучы, калі ёсьць якая зарганізаваная сіла ў Эўропе, якая магла-б памерыцца сілаю з камуністамі, дык гэта адны фашысты. На соцыялістаў комуністы не зварочваюць вялікай увагі, кажуць, што гэта людзі тэорыі, а не практыкі, а з фашыстамі зусім другая справа: тут спатыкаецца сіла з сілаю, арганізацыя з арганізацыяй, дыктатура з дыктатурай, тымболей, што як адны так і другія маюць па розных краёх сваіх прыхільнікаў. Цяпер як адна так і другая партыя робяцца інтэрнацыянальнымі. Калі ўжо ад некалькіх гадоў істнуе комуністычны інтэрнацыянал або так зв. комінтэрн (саюз комуністычных партыяў розных народаў), то цяпер Муссоліні імкнецца да таго, каб стварыць фашыстоўскі інтэрнацыянал, нейкі „фашінтэрн“", які зарганізаваў-бы ўсіх фашыстаў з цэлага сьвету.

Але ў практыцы фашысты і комуністы ідуць часта рука ў руку, паддзержываюць адны адных, заключаюць дагаворы і саюзы, выкарыстываюць усе магчымасьці, каб пры помачы сілы перавярнуць сьвет дагары нагамі і завесьці сваю фашыстоўскую ці комуністычную дыктатуру. Фашысты ў Італіі ці Нямеччыне (гітлероўцы) цьвердзяць, што яны настолькі моцныя, што не баяцца камуністаў і затым могуць з імі лучыцца ў пэўных выпадках... Тое самае цьвердзяць і камуністы. Лучыць іх рэволюцыйная тактыка сілы і імкненьне да дыктатуры... Кожная партыя хоча да яе дайсьці чымскарэй, і тагды — тагды будзе панаваць над усім народам.

Проціўпастаўленьнем да ўсялякай сілы і ўсялякай дыктатуры будзе анархізм, але аб ім у наступным нумары нашай часопісі. **Ваг.**

---

# Камунікат

**Цэнтр. Ураду Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры да ўсіх гурткоў Інстытуту**

Цэнтральны урад Б. І. Г. і К. гэтым даводзіць да ведама ўрады ўсіх гурткоў Інстытуту, што з пачаткам новага 1931 г. трэба ажывіць дзейнасьць Інстытуту. З гэтай мэтай: 1) у студні месяцы трэба сабраць агульныя сходы сяброў і перавыбраць урады.

2) Зараз пасьля агульнага сходу напісаць у Цэнтралю паведамленьне аб складзе новага ўраду; пераслаць імёны і прозьвішчы ўсіх сапраўдных сяброў гуртка.

3) Цэнтральны Урад паводле прысланага сьпісу вышле

ўсім сябром новыя білеты. Старыя білеты ад 1 сакавіка (марца) трацяць сваю сілу і будуць лічыцца няважнымі.

4) Можна прысылаць у Цэнтралю заказы на значкі Інстытуту (цана кожнага значка 1 зл. 50 гр.)

5) Цэнтральны Урад заахвочвае гурткі да больш энэргічнай дзейнасьці ў справе складаньня школьных дэклярацыяў, ладжаньня тэатральных прадстаўленьняў, лекцыяў, пашыраньня беларускага друкаванага слова і г. д.

6) З гэтай мэтай Цэнтральны Урад па Новым годзе разашле бясплатна гуртком кніжкі юбілейнага выданьня „Дудку Беларускую“ і „Смык Беларускі“ Фр. Багушэвіча, а так-жа характэрыстыку творчасьці Фр. Багушэвіча напісаную кс. Ад. Станкевічам.

Урады гуртkoў павінны паведаміць Цэнтралю: 1) колькі экзэмпляраў кніжак трэба ім выслаць дзеля пашырэньня ў народзе, 3) колькі ад Новага году прысылаць у гурток газэт і якіх?

Кожны гурток у сваім інтарэсе павінен паруліцца, каб скарэй прыслаць заказ на кніжкі, бо колькасьць кніжак для бясплатнай рассылкі агранічана.

**Цэнтральны Урад Бел. Інстытуту**
**Гаспадаркі і Культуры.**
**Вільня, Людвісарская 1—19.**

# Куток для спорту.

## Беларускія зімовыя народныя спорты.

Зіма дае беларускай моладзі больш разрывак і вясёласьці, чымся іншая пара году. Моладзь вясковая гучна аддаецца зімовым спортам. Перадусім кожны любіць пасьлізгацца на лёдзе.

Да сьлізганьня ўжываюць прылады, як канькі, якія пераважна робяцца з дрэва: кавалак палена, абструганага ў трыкутную форму, на сподзе з грубым дротам. Робіцца таксама форма і звычайнай дошчачкі з двума дратамі зыспаду. Канёк такі накладаецца толькі на адну нагу. Да лоўкіх залічаецца той, хто можа як найдалей праехаць на аднэй назе.

Такая язда выробляе раўнавагу тулава і ўзмацняе нэрвовую сыстэму.

Апрача сьлізганьня на каньках распаўсюджана ёсьць язда на санках з горкі, язда з горкі на дошках, або на „лядзёшах“, вырубленых на рацэ і прытарнаваных да добрага сяджэньня.

На лёдзе робіцца „каток“ і „крутарга“. Каб зрабіць каток, замаражываюць у саджалцы, або рацэ круглы кол, на каторы насаджываецца кола ад ваза. Да кола прывязы-

ваецца доўгая жэрдзь; на канец жэрдзі прымацоўваюцца санкі. Паміж шпіцаў кола ўстаўляюцца калы, прыпомачы каторых некалькі асоб круцяць кола. Ад гэтага санкі, на якіх сядзяць некалькі асоб, з вялікай хуткасьцю апісваюць круг.

Крутарга робіцца гэтак: на замарожаны ў лёдзе кол кладзецца ня грубое бярвяно, так, каб канцы яго не пераведшываліся. На кожны канец бярвяна сядае хлапец, а другія ходзячы навокал кала прыводзяць бярвяно ў кругавы рух.

Каткі і крутаргі вырабляюць адвагу, загартоўвуюць учасьнікаў і даюць ім шмат карысных рухаў і вясёласьці.

Старэйшыя людзі на вёсцы не разумеюць карысьці з кожных разрывак, якім інстынктоўна аддаецца моладзь, нават другі няраз яшчэ сварыцца на сваё дзіця, каторае, адчуваючы патрэбу руху, сьпяшыцца з кумпанамі на спартовыя гульні.

**Ул. Казлоўшчык.**

# Літэратурны аддзел.

## ДЗЕ ВЫ ПЕСЬНІ.

Гэй вы песьні, мае песьні,
Штож вы сьціхлі на [прадвесьні!?
Ўжо ня чутна мілых тонаў,
Што ішлі з маіх загонаў.
Можа з хмаркай дзесь [памчаліcь
І за морам пахаваліcь?
А мо' злыдні вас злавілі
І ў магілу палажылі?
А мо' зьбіліся з дарогі
Ды спаткаў вас лёс дзе срогі?
Мо' чужынец вас прысвоіў,
Ды на лад на свой настроіў;
Можа вам душу выймае
І чужую падрабляе,
А мо' вы зракліся сьвету,
Распазнаўшы нізасьць гэту
Паплылі у даль бясконца
К зорам стройным ці да сонца?
Каб там праўду напаткаці
І жыцьцё з ей распачаці.
Гэй, вы песьні, дзе вы зьніклі,
Ад мяне чаму адвыклі?
Мо' па сьвеце разляцеліcь?
Я вас клічу, дзе вы дзеліcь!
Я склікаю — сабярэцесь!
І ў родны кут вярнецесь.
Не, ня чутна даўнай сілы,
Мусіць лёс спаткаў ня мілы;—
Толькі й ёсьць адна пацеха,
Што адкажа часам рэха,
Як я песьні выклікаю,
Што чулі па родным Краю.

**Марвіч.**

## БЕЛАРУСУ.

Да мэты, брат, ідзі адважна,
Даволі церпіш ты ў страху!
Твая ідэя ёсьць дасяжна,
Ды ты ня траць свайго шляху.
Ня бойся бураў і нягодаў,
Калі Ты хочаш вольным жыць:
За ідэал сьвяты свабоды —
Трэ' і ўмярці гатовым быць.

Дык, брат, наперад! Годзі думаць!
І так ўжо часу шмат праспаў...
Твая нядбаласьць цябе губіць...
Ідзі хутчэй, бо — ты-ж адстаў.

**В. Шкодзіч.**

## ЦІ Я ЦЯБЕ ЛЮБЛЮ...

Ці я Цябе люблю, пытай тых ночак цёмных,
Што ў мроях аб Табе да сну мяне кладуць,
Калышуць так мяне, нясуць у край таёмны,
Пасьля мне пра Цябе ўсе сны мае снуюць.

Ці я Цябе люблю, хай скажуць зоркі ў небе,
Што вечарам сьпяшаць прыгожа нам ірдзець
І бачаць, як нераз ў душы маей патрэбе
Іду я, каб здалёк ў вакно Тваё глядзець.

Ці я Цябе люблю, хай скажуць мае вочы,
Што сьвецяцца агнём, як бачаць дзе Цябе,
І доўга йшчэ пасьля той вобраз Твой дзявочы
Трымаюць мне яны ў лятунках аб Табе.

Ці я Цябе люблю, хай скажа маё сэрца,
Што б'ецца весялей на думку аб Табе
І з думкай так маей к Табе яно ўсьцяж рвецца
Й знаходзіць шчасьце там тады яно сабе...

О, так! люблю Цябе я, моцна закаханы;
За што, дык нават я сказаць ня мог-бы сам.
Адно цьвярджу, што я Табой ачараваны
И ніколі я Цябе нікому не аддам.

І толькі сам Тварэц забраць Цябе мне зможа,
Калі пакліча мо' ў сваіх анёлаў лік.
Тады скажу Яму: й мяне бяры о, Божа!
Бо мне ўжо на зямлі праменьчык шчасьця зьнік.

**Казлоўшчык.**

## ПАСТЫР.

Ўлетку на раніцы ражок раздаецца:
Туру, туру, —гучна па вёсцы нясецца.
Гэта пастыр стары расьцяжыста трубіць
І цэлую вёску разам ад сну будзіць.
Барджэй каб ўставалі, хлявы адчынялі
І сваю жывёлу на вуліцу гналі.
Спачатку ён вёскі заўсёды заходзіць
І стадам скаціну на пасьбішча гоніць

**А. Жук.**

* * *

Спляліся цені — попел змрокаў
Пасыпаў сосны і кусты..
Ўнізе, над местам вагнявокім,
Пераліваюцца вагні...
За намі лес шуміць напеўна
І вецер лашчыцца... бунтар.

Як быццам пэрламі князеўна
Свой распаляе места твар...
Вагні... вагні... і шум мястовы,
Загаравалі нас, бы ў сьне...
Павабна маняць клічы—зовы
Загінуць у людзкой таўпе...
Цямней... цямней—сьцяною чорнай
Зьліліся сосны і кусты...
А у нізе, ярчэй, узорней
Пераліваюцца вагні.

Ліпень 1930. **Каласок.**

## ВЕРБЫ СТАРЫЯ...

Ціха паскрыпваюць, мерна калышуцца
З бурай ў змаганьні адны,
Вербы старыя!
Буры парывы раптам уздымуцца.
Й сіляцца вырваць з зямлі —
Вербы старыя!
Толькі галінкі, як хмары пасыплюцца...
Й зноў яны ціха скрыпяць —
Вербы старыя!
Бура прамкнецца і сонейка выгляне
Ціха гамоняць тагды
Вербы старыя!
Так і над намі, нядоляй скаваных,
Сумна праходзяць гады —
Буры нас крышаць сьвету нязнаных,
Мы ціха гамонім тагды —
Як вербы старыя... **М. Нядоля.**

## ДА ПЕСЬНІ.

Расплывіся ты песьня ўдалая,
Расплывіся навокал хутчэй,
Узварухні ў краю ўсё завялае
Іскру сонца кінь ў сэрца людзей!
Пакажы ты нам шлях да збаўленьня
Шлях, каторым павінны ісьці,
Каб стаць ўверх з векавога ляжаньня
Скарбы тыя што прагнем знайсьці.
Дай ахвоты да працы, цярпеньня,
Каб ўзрывалісь маланкай, агнём,
Каб ня бачыць у нас засмучэньня,
Хоць зло будзе тачыць з кожным днём,
Ляці песьня стралой, ня спыняйся,
Ўсюды сьлед за сабой застаўляй,
Дзе ўсьцяж гора і зьдзек разгараўся
Іскраў сонца так больш рассявай.

**Сяргей Жалюбчык.**

# Ночка.

Дзянёчак уміг прайшоў і ночка спавіваці пачала зямельку нашу. Раптам заціхла, замёрла ўсюды. Ціха... жуда якаясьць пачынае агартаць чалавека — быццам хто вось-вось кінецца на цябе... Аж раптам ветрык пачаў мацней гаманіць, як-бы памагчы хоча ўсе злыя думкі разагнаць і быць прыяцелем. Памаленьку пачалі хмаркі пасовывацца наперад і пакрываць неба. Зоркі былі закрытыя хмаркамі на небе і не маглі праглянуць на зямельку сваімі яскравінькімі вочкамі і палюбавацца ею. Толькі час ад часу паказваўся месяц, які скрыва паглядаў на маладую пару людзей, каторая стаяла каля дрэўцаў і штось паціхеньку гаварыла. Гутарка іхная была сумная, невясёлая.

Але вось скора і песьня праняслася ў начной цішыне. Яе пяяў малады хлапец для сваей любай дзяўчыны. Калі скончыў, запытаў у яе:

— Ці табе, мая люба дзяўчынка, усё ў ей зразумела — гэта песьня нядолі нашага народу!.. Тут у ей можна пачуць усе зьдзекі, скаргі жыцьця нашага сярмяжнага, цёмнага і блуднага; тут шукаюць выхаду да сьвятлейшых і лепшых ідэалаў нашага народу...

Дзяўчына, паглядзеўшы ў вочы яму, сказала:

— Хто такой прыгожай песьні не зразумее, хіба толькі той чалавек, каторы сягоньня жыве ў дастатках, без бяды, бяз гора і не спагадае нядолі сярмяжнаму народу. І маё ўсё гора і нядоля ўпісана ў гэтую прыгожую песьню!.. Ох, як многа, многа роіцца думак у маей галаве; толькі няма каму выказаць іх!...

— Ня трацьма надзеі — быў адказ ей — бярымося супольнымі сіламі за будову, ня гледзячы на ўсякія перашкоды і працуйма на ніўцы сваей роднай разам абое, дык і дачакаем сьвятлейшага і лепшага заўтра, толькі ня трацьма надзеі!...

— А скажы ты мне, чаму і ты ўсім гэтым так зацікавіўся?

А вось слухай мая, люба дзяўчына.

— Радзіўся, рос у беднай беларускай сялянскай хацінцы. Хадзіў за скацінкай ў поле; там прыслухоўваўся да сьпеваў птушак, да шумаў бароў і лясоў і да шуму тэй дзікой ігрушы, што сярод поля стаіць і плача ад ветру бязлітоснага. Усё люблю ў сваей роднай старонцы Маці Беларусі і ня здраджу яе ніколі!

Ветрык супакоіўся, як быццам і ён слухаў іх гутарак начных. А зоркі з неба на іх так ласкава паглядалі — відаць, што і ім спадабалася іх гутарка і яны хацелі падзяліцца сваімі думкамі векавечнымі... Месяц — заплакаў бядняга, ня мог далей і слухаць таго расказу, і памаленьку пачаў закрывацца ад іх хмаркамі.

І ціха—ціха стала на дварэ. Надыходзіла раніца. Неба на зару займалася. Уміг праляцела ночка поўная красы і ўспамінаў.

**Янка Ваўштолскі.**

## Рэчка і дзяўчына.

Там пад гарою млын прытаіўся і рэчкі маладую сілу зьвязаў. Стогнуць воды зьняволены застаўкай і просяць аб волю сваю. Дарма грудзьмі сьнежнымі воды узносяцца, прабуючы волю здабыць. Дарма рэчка пеніць хвалі крыштальныя, — няма ей разгону прасторнага нядаўнай свабоды яе. І калі млын маўчаў — ціхла і рэчка бяссільная: ня рвалася больш, каб волю здабыць.

І вось, калі рэчка маўчала, прышла да яе дзева маладая. Яна глянула на ваду люстраную і адбілася гожасьць яе. Вочы былі моў блакіт неба пагоднага, вусны—моў каліна сьпелая. Села дзяўчына на бераг зялёны— шоўкавы, уздыхнула цяжка і зачала плакаць, прычытываць: на што мне тая моладасьць, — цудоўная вясна жыцьця дзявочага? На што мне той блакіт вачэй, што ўсіх чаруючы аднаго толькі ня змог? Пашто я хадзіла ў двор панскі? Мо' ня ўбачыла-бы таго маладога, што пакінуў вобраз свой у сэрцы маім! Мо' ні цярпела-бы яно, ні рвалася-б у грудзёх маіх".

Яна ламала рукі белыя алябастравыя і прычытывала, гледзячы на рэчкі гладзь люстраную. Паліліся з вачэй тых цудоўных сьлёзы гарачыя і пачуўся голас жальбы беспатольнай. Яна жалілася на свой лёс неспагадлівы, на нядолю сваю: „Ах, была я дагэтуль птушкаю вольнай, пяяла песьні вясёлыя, была моў рэчка, што плыве цераз лугі зялёныя"... Глянула дзяўчына на рэчку зьнямеўшую, ды замаркоцілася яшчэ больш, бо зайздравала ей волі, ня бачучы, што і рэчка была стрымана застаўкай высокай, стаўпамі дубовымі. І плакала дзяўчына і прычытывала на лёс свой неспагадлівы...

**Б. Клепацкі.**

---

*ГРАМАДЗЯНЕ!*

*Засноўвайце гурткі Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры! Дзе ёсьць хоць трох сьведамых беларусаў жадаючых працаваць на ніве культурнага і гаспадарчага адраджэньня Беларусі, там павінен быць гурток Інстытуту.*

*Выпісвайце статут, інструкцыі і пачынайце арганізацыйную працу!*

*Адрас Інстытуту: Вільня, Людвісарская вул. 1—19.*

# Лісты.

## „ПАРА У РУКІ БРАЦЬ ПАХОДНІ!“

**Шаркаўшчына,** Дзісьненскага пав. Чытаючы беларускія газэты, з прыемнасьцю даведываемся, што паміма ўсялякіх перашкодаў, беларуская адраджэнская і культурная праца пашыраецца і што моладзь беларуская ня ўсюды марнуе свае маладыя гады, а па меры магчымасьці выкарыстоўвае свае сілы пасьвячаючы для дабра агульнае справы.

У нашым кутку глуха і ніхто ніякае культурнае працы не вядзе. А за тое, як сьвята прыходзе, паміма таго што людзі бедныя, — п'яных поўна, і то пераважна моладзь. Гледзячы на гэта, робіцца дужа сумна.

На гэтым месцы хачу заклікаць усіх застанавіцца, падумаць і кінуць кепскія налогі. Нам трэба ўзяцца за культурную працу, залажыць сваю арганізацыю, ладзіць прадстаўленьні, адкрыць бібліятэку-чытальню, выпісваць свае беларускія газэты, кніжкі. І так памаленьку навучымся і мы, як трэба жыць. Ня трэба спаць, час найвышэйшы падумаць аб лепшым заўтра.

„Пара у рукі браць паходні
Ісьці ў народ ноч разсьвятляць,
Бо што ня возьмеце сягоньня,
Таго і заўтра вам ня ўзяць“.

Сашка Гаротны.

## ДАЖЫЛІСЯ.

**Палачаны,** Валожынскага пав. Моладзь наша, а нават і старэйшае грамадзянства, дзякуючы войту, да таго дажыліся, што цяпер у нас ня можна без пазваленьня таго-ж войта ці каманданта паліцыі зрабіць звычайнага вясковага сходу, каб на ім абгаварыць чыста сельскія гаспадарскія справы, а так-жа, каб наладзіць звычайную вясковую прыватную вечарынку. І так цяпер і патанцаваць ня можна бяз ведама п. войта, ці каманданта паліцыі. Такіх забаронаў ня было нават падчас сусьветнай вайны. Малады.

## ТРЭБА ВУЧЫЦЦА.

**Замоша** каля Браслаўя. Моладзь у нас расьце, як кажуць „на лес гледзячы“; вельмі кепска, што яна ня вучыцца, а калі вучыцца, то ў польскай школе, не асягаючы належных вынікаў. І з гэтае прычыны вельмі малая надзея на палепшаньне нашае цяжкое долі. Бо калі чалавек нявучаны, то яму вельмі цяжка штось здабыць і чагось навучыцца. Дзеля гэтага бацькі, дбаючы аб сваёй і аб сыноў і дочак долі, павінны старацца вучыць сваіх дзяцей і дамагацца для іх роднае беларускае школы, у якой маглі-б яны нармальна вучыцца. Ігнат П—пін.

# Хроніка

## З беларускага жыцьця пад Польшчай.

Акадэмія ў чэсьць Фр. Багушэвіча. 7.XII.1930 г. у салі пры касьць. сьв. Мікалая, Бел. Інстытут Г. і К. ладзіў акадэмію ў чэсьць Бацькі беларускага адраджэнскага руху, вялікага паэта Фр. Багушэвіча. У часе акадэміі, якая была ладжана з прычыны 30-х угодкаў сьмерці Фр. Багушэвіча, інж. А. Клімовіч прачытаў рэфэрат на тэму „Фр. Багушэвіч як паэт і грамадзянін", мастак Я. Драздовіч расказаў свае ўражаньні і весткі з пабыту свайго на месцы, дзе радзіўся, жыў, памёр і пахаваны Фр. Багушэвіч і паказаў некалькі рысункаў з тае старонкі; п. Зыгмунт Нагродзкі, асабісты прыяцель Фр. Багушэвіча, падзяліўся з прысутнымі сваімі вельмі цэннымі ўспамінамі аб Фр. Багушэвічу. На заканчэньне акадэміі адсьпяваны быў прысутнымі беларускі народны гымн „Не пагаснуць зоркі ў небе".

Новы гурток Інстытуту. У в. Задвор'е, Стаўпецкага пав., зарганізаваўся новы гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

З выдавецкае нівы. Апошнім часам у Вільні выйшлі з друку і паступілі ў прадажу наступныя беларускія кніжкі: „Dudka Biełaruskaja" — Фр. Багушэвіча, выданьне Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, кніжка мае 48 стар., цана экзэмпляра 60 гр; „Smyk Biełaruski" і „Dudka Biełaruskaja" Фр. Багушэвіча разам і з вялікай прадмовай Кс. Ад. Станкевіча, выд. Бел. Інстытуту Г. і К., кніжка мае 124 стр., цана 1 зл.; „Fr. Bahuševič" крытычны нарыс кс. Ад. Станкевіча, выд. Б. Інстытуту Г. і К., кніжка мае 40 стр., цана 60 гр. „Новая Зямля" — Якуба Коласа, паэма, выд. Б. Інстытуту Г. і К., кніжка мае 286 стр. і каштуе 2 50 зл. „Вітаўт Вялікі і Беларусы", — Кс. Ад. Станкевіча, выд. Беларускага Нацыянальнага Камітэту, кніжка мае 32 старонкі і каштуе 50 гр.

У Празе Чэскай выйшла з друку кніжка п. н. „Беларусь і Беларусы"—Др. М. Іляшэвіча, інфармацыйнага зьместу ў чэскай мове, мае 124 стр. і каштуе 3 зл. Купіць гэтыя кніжкі або выпісаць можна ў кнігарні „Пагоня", Вільня, Людвісарская вул. № 1.

У хуткім часе мае выйсьці з друку новая беларуская кніжка Якуба Коласа п. н. „У Палескай глыбі“, кніжка гэта мае быць другой часткай кніжкі „У палескай глушы“ гэтага-ж самага аўтара.

Беларускія коопэратыўныя курсы праз карэспандэнцыю. Беларускі Студэнскі Саюз сарганізаваў і ўжо вядзе Беларускія Коопэратыўныя Курсы праз карэспандэнцыю. Курсы гэтыя бясплатныя, толькі трэба заплаціць 3 зл. за паперу і кошты перасылкі.

Суд над гр Чыжэўскімі Сташкевічам. 15-га г. м. у Віл. Акружным Судзе разглядалася справа сябры Гуртка Бел. Інстытуту Г. і К. гр. Чыжэўскага і Сташкевіча, абвінавачаных, па злосных даносах, у пашыраньні камуністычнае літэратуры. Суд абвінавачаных апраўдаў. Але хто ім зьверне тыя страты і цярпеньні, якія яны муселі прайсьці, седзячы да суду ў вастрозе?!

## З жыцьця ў Б.С.С.Р.

Апошнія падзеі. Апошнім часам з Савецкае Беларусі, надходзяць вельмі сумныя весткі якія вельмі добра характэрызуюць адносіны маскоўскіх камуністаў да Беларусаў.

У Мінску ГПУ арыштавала самых выбітных беларускіх працаўнікоў і вучоных як В. Ластоўскага, Цвікевіча, Смоліча, Краскоўскага, Лёсіка, Некрашэвіча, Прышчэпава, Адамовіча, Гарэцкага, пісьменнікаў Дудара, Зарэцкага, Лужаніна, Пушчу і інш. Усім арыштаваным камуністы закідаюць контр-рэвалюцыйную работу. Запраўды арыштавалі іх за тое, што ўсе яны былі шчырымі беларусамі і працавалі на карысьць Бацькаўшчыны.

Моцна скрыўдзілі камуністы патрыярха сучаснага беларускага руху праф. Эпімах-Шыпілу, якога пратрымаўшы 2 месяцы ў турме, саслалі з Мінску ў Ленінград, не даючы яму ніякай працы. Такім чынам астаецца ён цяпер на ласцы лёсу.

Ходзяць чуткі аб сялянскім проціў-камуністычным паўстаньні на Беларусі, а так-жа аб арыштаваньні б. грамадаўскага пасла С. Рак-Міхайлоўскага, які нядаўна разам з б. пасломі Мятлой, Грэцкім і Бурсэвічам выяхалі ў Мінск.

## З Польшчы.

Зьмена ўраду. Пасьла выбараў урад марш. Пілсудзкага падаўся ў адстаўку, месца яго заняў новы ўрад на чале з палк. Слаўкам. Зьмена гэта нічога новага не дае.

Адкрыцьце Сойму і Сэнату. 9 г. м. адбылося адкрыцьце польскага Сойму і Сэнату; пасьля адкрыцьця быў выбраны на марш. Сойму др. Сьвітальскі, а на марш. Сэнату б. віленскі ваявода Рачкевіч.

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

Справа Берасьця. Польскія апазыцыйныя партыі падалі ў Сойме Інтэрпэляцыю, дамагаючыся высьвятленьня справы арыштаў польскіх паслоў з апазыцыйных партыяў пасьля роспуску апошняга Сойму і пакараньня тых асоб, якія нялюдзкім спосабам зьдзекаваліся над арыштаванымі ў вастрозе ў Берасьці. Справай гэтай зацікавіліся нават прафэсары польскіх унівэрсытэтаў і дамагаюцца таксама высьвятленьня яе. З гэтае таксама прычыны Польск. Партыя Сац. мае падаць у Сойме прапазыцыю пацягнуць быўшага ў тым часе ўраду м. Пілсудзкага да адказнасьці перад Трыбуналам.

Выезд марш. Пілсудзкага. Перад каталіцкімі Калядамі выехаў з Польшчы марш. Пілсудзкі на востраў Мадэру, на Атлянтыцкім акіяне, на адпачынак.

**З заграніцы.**

Ліга Народаў. 19 студня 1931 г. у Жэнэве адкрываецца 62-я сэсія Лігі Народаў, у часе якой паміж іншым мае разглядацца нямецкая скарга на Польшч, справаздача аб польска-літоўскіх перагаворах, а так-жа ўкраінскі мэмор'ял у справе апошніх падзеяў у Галіччыне.

У Францыі зьмяніўся ўрад. На чале новага ўраду стаіць сэнатар Стээг, радыкал.

У Літве паводле апошніх вестак няма зусім безработных.

У Гішпаніі была выбухшы рэвалюцыя скіраваная проціў сучаснага караля. Урад аднак перамог рэвалюцыянэраў.

У С.С.Р.Р. старшыня Рады Народн. Каміс. Рыкаў падаўся ў адстаўку, месца яго заняў Молатаў, быўшы сэкрэтар Сталіна.

У Аргентыне было моцнае землятрасеньне, у часе якога м. Пама было зусім збурана, 35 асоб забітых і 70 раненых.

## Наша пошта.

М. Чэрвякову ў Эстоніі. „Шлях Моладзі" і календарык высылаем і чакаем падпіскі.

І. Кавальчуку. За 3 зл. дзякуем „Ш. М." высылаем, календарык вышлем.

М. Казакевічу і Т. Ромейку. За добрыя словы і падпіску дзякуем, „Ш. М." і календарык высылаем.

Фр. Славінскаму. Пробны нумар высылаем і чакаемо падпісной платы.

Ст. Петрашку. Пробны нумар высылаем, адрас перадалі, календарык вышлем па атрыманні падпіскі

Г. Потурбейку. „Ш. М." высылаем. Адрас у кнігарню „Пагоня" перадалі. За падпіску дзякуем.

А. Кавалеўскаму. Адрас у кніг. „Пагоня" перадалі.

Леаніду з пад Вішнева. П'еску і верш атрымалі, дзякуем, адказу што да друку п'ескі пакуль-што цяпер ня можам яшчэ даць, але зробім гэта ў хуткім часе.

Маладому. Атрымалі, дзякуем, выкарыстаем.

Я. Жуку. Вершы атрымалі, памагчымасьці надрукуем.

С. Жалюбчыку. Вершы атрымалі, дзякуем памагчымасьці будзем друкаваць.

Pierasylka aplačana ryčaltam.

Падпіску на „Ш. М." атрымалі ад: Дварэцкага М. 5 зл., Стальчынскага Ад. 4 зл., Кавальчука Я. 3 зл., Тарасэвіча Ул., Крупскага Д., Кавалеўскага А., Паўльскага Ул., Ромэйкі Т., Аніська Э., Асіповіча П., Луцкевіча Ант., Казакевіча М., Лакоткі Ул. па 2 зл.; Гутніка Ул., Кабака В., Худзкі В., Абрамчыка К., Часноўскага Я., Стэпулёнка П. па 1 зл. Усім шчыра дзякуем і „Шлях Моладзі" высылаем.

